# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 24 (2270) 11 чэрвеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)


## МІНСКУ— 925 ГАДОЎ




Свята горада Мінска стала ў апошнія часы набываць рысы пэўнай традыцыі. Але калі ў мінулыя гады мінчане адзначалі Дзень сталіцы бліжэй да 3 ліпеня, прымяркоўваючы падзею да вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, то на гэты раз святкаваць было вырашана ў канцы мая. І прычына тут адна: Мінску спаўняецца сёлета 925 гадоў. Так сведчаць летапісы. Горад, які пачаў будавацца на берагах Нямігі, вырас ад невялікага паселішча да амаль двухмільённага цэнтра прамысловасці і культуры.

Прычым, лёс яму выпаў зусім незайздросны. Як расказваюць гістарычныя крыніцы, жыхары Мінска павінны былі разам з кельмай трымаць у сваіх руках і меч. Меч не для нападу, а для абароны. Горад не раз быў спалены і спустошаны. Асабліва пацярпеў ён у гады Вялікай Айчыннай вайны. Але кожны раз адраджаўся нанава, станавіўся больш прыгожым.

Ён стаіць на скрыжаванні шляхоў з Еўропы ў Азію, з захаду на ўсход, з'яўляецца галоўным горадам суверэннай дзяржавы—Рэспублікі Беларусь. Як буйны палітычны і эканамічны цэнтр, ён вядомы цяпер дыпламатам і дзяржаўным дзеячам, прадстаўнікам розных міжнародных арганізацый і фінансістам.

НА ЗДЫМКУ: ля святочнай афішы.

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 3-й стар.).

ЛЮДЗІ ГАТОВЫ ПАЦЯРПЕЦЬ

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ПАРТЫЯ?

### ІНТЭРВ'Ю СА СТАРШЫНЁЙ ПАРТЫІ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ, ДЭПУТАТАМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Генадзем КАРПЕНКАМ

**— Напярэдадні ўстаноўчага з'езда Партыі народнай згоды (ПНЗ) «Голас Радзімы» ў сваім каментарыі задаў некалькі пытанняў: ці будзе новая партыя пажаданай для нашага грамадства! Ці не памкнуцца яе зацерці і спіхнуць з палітычнай сцэны старэйшыя і таму больш вопытныя партыі і рухі! І не паспела яшчэ партыя арганізавацца, як са старонак друку раздаўся разгневаны і з'едлівы голас Зянона Пазьняка: месца ў цэнтры, на якое прэтэндуе ПНЗ, даўно занята БНФ, і новай партыі туды не ўціснуцца, ды наогул ёй няма чаго рабіць — усе палітычныя ячэйкі грамадства даўно падзелены і заняты.**

**Што б вы, Генадзь Дзмітрыевіч, маглі сёння адказаць на тыя колішнія пытанні «Голасу Радзімы» і на заяву лідэра БНФ!**

— Прынамсі, нас сустрэлі з цікаўнасцю, да Партыі народнай згоды прыглядаюцца. Думаю, што гэта датычыцца ўсіх партый і рухаў, якія сёння нараджаюцца ў Беларусі. А прычына тая, што ў праекце Канстытуцыі, у праекце новага Закона аб выбарах закладзены такі механізм: вылучэнне кандыдатаў у парламент павінна ісці толькі ад партый. Так што да нас прыглядаюцца як да будучых сапернікаў, канкурэнтаў. Гэта — па-першае. А па-другое, у нашай партыі ёсць дэпутаты Вярхоўнага Савета, даволі моцная група інтэлігенцыі, што дало зачэпку некаторым газетам заявіць: ці не стане ПНЗ партыяй элітарнага тыпу?

Што датычыцца заявы Зянона Пазьняка, то напэўна і сам ён разумее: знаходзіцца ўвесь час у цэнтры немагчыма. Прызнаючы за БНФ пальму першынства, асабліва ў праблемах адраджэння, мы ўсё ж прытрымліваемся той ісціны, што ёсць сілы, якім наканавана зрабіць першы крок, але ж некаму трэба зрабіць і крок наступны. І наогул, каб быць у цэнтры, трэба мець даволі моцную інтэлектуальную каманду.

Цяпер галоўная задача — адкінуўшы партыйныя амбіцыі, стварыць блок дэмакратычных сіл.

Пакуль што я не стану дзяліць партыі на нашых саюзнікаў і праціўнікаў, хаця да адных мы ўжо адчуваем сімпатыі, а да іншых наўрад ці такое стаўленне будзе: уся справа ў іх праграмах. У нас цяпер перыяд палітычных кансультацый: сустракаемся з рознымі партыямі, растлумачваем адзін аднаму свае пазіцыі і фарміруем свае адносіны. Да прыкладу, такая сустрэча адбылася з Беларускай сялянскай партыяй, мы знайшлі агульнае разуменне тых падзей, што адбываюцца сёння ў Беларусі і свеце.

Акрамя палітычных кансультацый, мы фарміруем групы спецыялістаў, якія зоймуцца распрацоўкай асноўных законапраектаў. На восеньскую сесію Вярхоўнага Савета рэспублікі мы рыхтуемся прыйсці са сваімі праектамі дакументаў.

**— Ваш сябар па партыі і дэпутацкаму корпусу Васіль Даўгалёў сказаў: «Мы павінны скласці той блок, які мог бы ўзяць на сябе ўсю адказнасць за выхад з крызісу шляхам рэформ, на аснове згоды і кансалідацыі палітычных сіл і партый і даверу народа». Ці адчуваеце вы цяжар адказнасці, які кладзецца на вашы плечы! Ці можаце вы смела і адкрыта сказаць народу, што бачыце выйсце з крызісу!**

— Людзі, якія ставяць перад сабой такую задачу, дакладна ўсведамляюць адказнасць, якую прымаюць на сябе. Сёння ні адна грамадская структура, ні адна партыя не можа сказаць: «Мы гэта зробім — выведзем краіну з тупіка!» Сказаць можна, але людзі не дадуць веры. Таму мы і імкнёмся зараз з розных партый сфарміраваць такі блок, які гатоў ускласці на сябе складаную задачу: знайсці выйсце з крызісу. І хай бы хто ні сцвярджаў, што толькі яго партыя мае самую эфектыўную праграму, усё гэта не адпавядае рэчаіснасці. Адным партыям ужо ніхто не верыць, іншым яшчэ не вераць, таму што яны не ўяўляюць сабой той грамадскай і палітычнай сілы, якая здолела б павярнуць наша жыццё. Таму кааліцыя — вось тое, што ў даных умовах патрэбна нашай рэспубліцы.

А людзі нашы цярплівыя. І яны гатовы яшчэ тужэй зацягнуць папружку, яшчэ пацярпець, калі ўбачаць, што тыя палітыкі, якія заклікаюць да гэтага, робяць тое самае. Церпяць разам з народам, а не расцягваюць адзін перад другім навыперадкі народнае дабро. Давайце не будзем крывіць душой: мы ж бачым, як сёння

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў ШУШКЕВІЧ уручыў вялікай групе прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі ўзнагароды рэспублікі — пасведчанні і нагрудныя знакі аб прысваенні ганаровых званняў і ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за вялікі ўклад у развіццё галін народнай гаспадаркі і дасягнутыя поспехі ў навуцы, культуры і мастацтве. Менавіта неабходнасць уносіць свой пасільны ўклад у фундамент будаўніцтва новай дзяржавы — новай Беларусі адзначыў у сваёй прывітальнай прамове Станіслаў Шушкевіч.

НА ЗДЫМКУ: у час уручэння ўзнагарод.

ПАД АХОВАЙ РЭСПУБЛІКІ

## ЗАСТАЮЦЦА БЕЛАРУСАМІ

Беларускае грамадзянства афіцыйна атрымаў 51 жыхар літоўскага горада Друскінінкай — супрацоўнікі санаторыя «Беларусь». Ураджэнцы Беларусі пасля выхаду Літвы з былога СССР апынуліся ў становішчы асоб без грамадзянства. Ад літоўскага адмовіліся, а для беларускага згодна з Законам аб грамадзянстве ў Рэспубліцы Беларусь, які ўступіў у дзеянне з 18 кастрычніка 1991 года, трэба пастаянна пражываць на яе тэрыторыі.

Жыццёвы вакуум, што ўтварыўся, прымусіў іх звярнуцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі з просьбай адказаць, хто ж яны цяпер. Адказ быў адназначны: вы — беларусы, што пацвярджаецца Указам, прынятым беларускім парламентам, і спецыяльнымі ўкладышамі ў пашпарты былога СССР, якія яшчэ дзейнічаюць. Пагадненне аб гэтым заключана з літоўскім бокам.

Ва ўкладышах на беларускай мове сведчыцца, што іх уладальнік з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца пад яе аховай. У тэксце таксама ўтрымліваецца просьба да ўлад Літвы з павагай ставіцца да правоў і асобы прад'яўніка. Новыя дакументы ўручыў 28 мая ў Друскінінкаі намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Астапенка. У далейшым, калі ў Беларусі будуць уведзены нацыянальныя пашпарты, іх атрымаюць і замежныя беларусы.

САЦЫЯЛАГІЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

## ПЕРАБУДОВА — ГЭТА ПАМЫЛКА

Ацэньваючы развіццё краіны ў паслякастрычніцкі перыяд, большасць рэспандэнтаў абмеркавалі як саму Кастрычніцкую рэвалюцыю, так і факты сталінскіх рэпрэсій, палікі ў нацыянальнай палітыцы і, вядома, умовы, у якіх стала магчымай чарнобыльская катастрофа. Разам з тым вялікая колькасць апытаных прызналі дасягненнем КПСС (і ўсяго савецкага народа) НЭП, эканамічнае развіццё краіны да 1985 года і стварэнне ваенна-прамысловага комплексу. Перабудова многімі названа памылкай. У цэлым жа большасць рэспандэнтаў лічаць злачынным існаваўшы ў краіне камуністычны рэжым. Таму зразумела, што «вобраз ворага» больш за ўсё факусіруецца на былым партыйна-дзяржаўным апараце (49,7 працэнта) і толькі пасля яго ідзе арганізаваная злачыннасць (27,5 працэнта). І ўсё гэта — на эмацыянальным фоне незадаволенасці, расчаравання і прыгнечанасці. Больш таго — каля 75 працэнтаў апытаных гатовы ўдзельнічаць у розных формах пратэсту супраць неразумнай палітыкі цяперашняга кіраўніцтва рэспублікі.

Гэтыя даныя атрыманы Сацыялагічным цэнтрам БДУ, які праводзіў даследаванне ў красавіку 1992 года.

ВЕЧНАЯ СПРЭЧКА

## УКРАІНА МАЕ ІНТАРЭС

Сёлета ў пяці школах Кобрына заканчваюцца заняткі ў групах, якія вывучаюць украінскую мову.

Арганізаваны яны «Товариством української мови імя Т. Г. Шевченка «Просвита» з дапамогай гарана, у будучыні плануецца стварыць замест груп цэлыя класы.

А яшчэ, як стала вядома БелаПАН, Міністэрства адукацыі Украіны пакідае за абітурыентамі Берасцейшчыны, хто б яны ні былі, у ВНУ Украіны 30 ільготных месцаў на ўсе факультэты пры адной умове — неабходна валодаць мясцовай размоўнай гаворкай. Такім чынам, Украіна робіць свой акцэнт у шматгадовай спрэчцы, да якой жа мовы аднесці палескія дыялекты... Тыя, хто атрымае адукацыю, будуць накіроўвацца ў раёны, адкуль прыбылі на вучобу.

КАНФЕРЭНЦЫЯ ГІСТОРЫКАЎ

## «РЫМ ТРЭЦІ»

З канферэнцыі пад умоўнай назвай «Рым трэці», што адбылася ў Камянец-Падольску, вярнулася беларуская дэлегацыя. У старажытным украінскім месцы навукоўцы з Германіі, ЗША, Румыніі, Літвы і Украіны абмеркавалі праблемы існавання чалавека, грамадзянскай супольнасці і дзяржаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Беларускую дэлегацыю, у якой было сем вядомых навукоўцаў рэспублікі, узначальвалі дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс і намеснік старшыні Камісіі ВС рэспублікі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Беларусі Алег Трусаў. Даклады нашых навукоўцаў выклікалі вялікую цікавасць, у тым ліку і сярод зарубежных спонсараў. Беларусам, у прыватнасці, адразу былі прапанаваны сродкі для напісання альтэрнатыўнага падручніка па гісторыі сваёй краіны. Цікава, што сярод прысутных прадстаўнікоў Расіі не было. Чарговую канферэнцыю — «Рым чацвёрты» — вырашана правесці ў Мінску ў чэрвені 1993 года.

*«Нядаўна ў інтэрв'ю Эй-бі-сі Дж. Бейкер прызнаў: «За некалькі дзесяцігоддзяў мы (ЗША) затрацілі трыльёны долараў, каб перамагчы ў «халоднай вайне». Дырэктар ЦРУ Р. Гейтс адкрыта заявіў: мы сканцэнтруем такія сілы і павядзём такую агентурную работу ў былым Саюзе, як ніколі раней. І заклікаў членаў кангрэса не спяшацца з абмежаваннем бюджэту разведвальных ведамстваў, якія, па ацэнках амерыканскага друку, складае амаль 30 мільярдаў долараў у год.*

*Пра аналагічныя намеры актывізацыі разведвальнай дзейнасці супраць краін СНД гаварылі кіраўнік знешняй разведкі Германіі К. Порцнер, іншыя прадстаўнікі спецслужбаў. Паверце, гэта я не для апраўдання свайго існавання, у чым нас часта справядліва папракнуць. Узмацненне разведвальнага націску мы штодзённа адчуваем у патоку аператыўнай інфармацыі. У сувязі з выхадам Беларусі на міжнародную арэну у нас з'яўляюцца пасольствы, іншыя ўсемагчымыя замежныя прадстаўніцтвы, узмацняецца навукова-тэхнічны, культурны, турысцкі абмен, што, натуральна, шматразова павышае разведвальныя магчымасці замежных дзяржаў. І, не нагнятаючы шпіёнаманіі, трэба сказаць, што ў кожнай суверэннай дзяржавы ёсць свой рэжым дзяржаўнай сакрэтнасці, які неабходна захоўваць.*

*Намі выяўляліся спробы вярбовак беларускіх дыпламатаў у час іх знаходжання за рубяжом. Мэта апрацоўкі — прыцягненне да «супрацоўніцтва». Своечасова прынятыя аператыўныя меры ў шэрагу выпадкаў дапамаглі сарваць гэтыя акцыі.*

*Яшчэ толькі адзін факт. У Маскве чэкісты Беларусі дапамаглі захапіць з доказамі злачынства аташэ пасольства ЗША Луіса Томаса пры перадачы ім раней завербаванаму жыхару Гомельскай вобласці інструкцыі па тайніку. Пры наступным расследаванні былі атрыманы матэрыялы, якія выкрывалі разведвальную дзейнасць амерыканскага дыпламата».*

*(З інтэрв'ю Генадзя ЛАВІЦКАГА, намесніка старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь газеце «Звязда»).*

ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА

Бытавую тэхніку, прадукты, адзенне, а таксама шматлікія малюнкі сваіх аднагодкаў з Германіі атрымалі ў падарунак дзеці сямейнага лагера дома Кутузавых з Гродна. Груз дапамогі даставілі ім прадстаўнікі таварыства нямецкіх Усходне-Еўрапейскіх сувязей з горада Міндэна.

Гэта ўжо не першы аўтакараван з гуманітарнай дапамогай, які прыбыў з гэтага горада. Паміж Гроднам і Міндэнам наладзіліся сяброўскія адносіны. Калі ў Міндэне даведаліся пра дзіцячы дом сямейнага тыпу Кутузавых, дык вырашылі арганізаваць яшчэ адну дабрачынную акцыю. Нямецкія сябры маюць намер і надалей аказваць дапамогу гэтаму дзіцячаму дому.



НА ЗДЫМКУ: Галіна і Аляксей КУТУЗАВЫ (у цэнтры) і іх дзеці з прадстаўнікамі таварыства нямецкіх Усходне-Еўрапейскіх сувязей з Міндэна ля пад'езда дома.

ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ

Адноўлены пасля доўгага перапынку Свята-Нікольскі жаночы манастыр у Магілёве. Манаскі зарок прынялі пакуль сем сясцёр. Але ўжо паступіла некалькі дзесяткаў прашэнняў ад дзяўчат і жанчын, якія не змаглі знайсці сябе ў нашым мітуслівым свеце і шукаюць выратавання ў кеплях.

Магілёўскі манастыр быў заснаваны ў першай палове XVII стагоддзя пры царкве святога Мікалая. Спачатку быў мужчынскім, а з сярэдзіны XVII стагоддзя — жаночым. Пасля 1917 года манастыр закрылі, а будынак прыстасавалі пад складское памяшканне.

Цяпер, калі будынак вернуты царкве, тут пакрыху пачынае аднаўляцца былое жыццё: рэстаўруецца царква, манаскія келлі, даводзіцца да ладу прысядзібная гаспадарка.

НА ЗДЫМКУ: манашка Агнія з паслушніцай Аляўцінай.



СУАЙЧЫННІК З МІЛЬЁНАМІ

## ПЛАН ДЖОНА ВІШНЕЎСКАГА

Мінск наведаў кіраўнік буйной амерыканскай фірмы «NDII» па інвестыцыях і продажу нерухомасці Джон Вішнеўскі. Яго мэта — укласці амерыканскі капітал у нашу эканоміку, паспрыяць эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю сваёй Бацькаўшчыны.

Іван, ён жа Джон Вішнеўскі, родам з вёскі Нівы, што была пад Слонімам. Даўно сям'я нашага суайчынніка выехала ў Амерыку. Там Іван стаў Джонам, сваёй кемлівасцю і працай выбіўся ў мільянеры, стаў пісьменнікам. Адна з шасці яго кніг выдадзена ў Маскве. Ганарар за яе Дж. Вішнеўскі ахвяруе Беларусі.

А яшчэ ён хацеў бы пабудаваць у Мінску некалькі гасцініц. Як сказаў Дж. Вішнеўскі карэспандэнту газеты «Звязда», яму не надта падабаецца забудова беларускай сталіцы. Ён маркуе распрацаваць і прапанаваць свой план узвядзення гасцініц, офісаў, катэджаў.

— Гэта будзе прыгожа, — гарантуе наш суайчыннік з Амерыкі.

ГАРАЦЬ ДАЧЫ

## ПОМСТА ДЗЕМЯНЦЕЮ

Месяц назад згарэла дача былога Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Мікалая Дземянцея. Следчыя і эксперты пажарнай аховы ўстанавілі, што яна была падпалена зламыснікамі. Следства выявіла мяркуемага падпальшчыка, які некалі працаваў разам з Мікалаем Дземянцеем і спрачаўся з ім на дзелавых пытаннях. Але падазроны не арыштаваны, таму што міліцыя і КДБ пакуль не маюць неабвержных доказаў яго віны.

У канцы мая такая ж доля напаткала і дачу намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне Аляксандра Козела. Падпал нібыта ўчынілі падлеткі, якія займаюцца крадзяжамі.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## СЯБАР ДЗЯЦЕЙ

Адным з трох цяперашніх лаўрэатаў прэміі рэспубліканскага Дзіцячага фонду стаў жыхар вёскі Задворцы Брэсцкага раёна Яўген Дудчык. Яму ўручана ганаровая ўзнагарода фонду — медаль «Сябар дзяцей».

Яўген Мікалаевіч працуе вадзіцелем прыватнага таксі і на працягу пяці апошніх гадоў штомесяцна пералічвае на рахунак Дзіцячага фонду па 100 рублёў. Сваю прэмію дзесяць тысяч рублёў Яўген поўнасцю аддаў на патрэбы хлопчыкаў і дзяўчынак.

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ПАРТЫЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

фактычна ўсе кіраўнікі на месцах заняліся ў першую чаргу тым, што ўладкоўваюць уласныя праблемы, а не праблемы грамадства. Дык хто ж і дзеля чаго тады стане тужэй зацягваць папружку?

Найгалоўнейшае сёння — вярнуць людзям веру, што ёсць выхад з той сітуацыі, у якой мы ўсе апынуліся.

— **Што для гэтага трэба!**

— Якое б ні было грамадства, а дыктатура ўлады патрэбна ў любой дзяржаве. Гэта аснова, без якой любыя заклікі — пусты гук. Таму, на мой погляд, адзін з першых крокаў на шляху да выхаду з крызісу, хоць гэта і непапулярна цяпер,— дыктатура закона. Толькі яна павінна стабілізаваць грамадства і прывесці яго ад стану хаосу да стабільнасці. Гэта зыходны пункт, ад якога можна рушыць далей разам, а не разбягацца паасобку. Армія распрацоўвае выхад з поля бітвы нават пасля свайго паражэння. І нам сёння трэба думаць пра рэгулюемы выхад з хаосу.

— **Народ цяпер мала цікавіцца партыямі і іх праграмамі — людзі зняверыліся. І ўсё ж амаль што кожная з іх стараецца звабіць масы нечым спакуслівым, не скупіцца на абяцанні. Вы ж, наадварот, нічога, акрамя цвёрдай дысцыпліны і паса, зацягнутага на апошнюю дзірку, не абяцаеце. На што вы разлічваеце!**

— На цвярозы падыход. Той, хто абяцае сёння адно толькі павышэнне зарплаты,— раіць выбраць пагібельны шлях. Як можна абяцаць людзям, што цэны не будуць павышацца, калі статыстыка за І квартал паказвае: па ўсіх напрамках народнай гаспадаркі ідзе рэзкае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Пакуль не запрацуе эканоміка, цэны будуць паўзці ўверх. І не трэба людзей уводзіць у зман дарэмнымі ілюзіямі.

— **Генадзь Дзмітрыевіч, як вы ставіцеся да ідэі рэферэндуму, якога настойліва дамагаецца апазіцыя! А значыць і якой вы думкі пра Вярхоўны Савет, дзе засядаеце разам са сваімі калегамі-дэпутатамі, пра структуры вышэйшай улады рэспублікі!**

— Сённяшні Вярхоўны Савет непрацаздольны. І гэта адразу кідаецца ў вочы. Тут многа прычын, а найпершая — як ён выбраны, як сфарміраваны. Наш Вярхоўны Савет дрэнна працуе, таму што ён прафесійна непрыдатны. І гэты вузел трэба рассякаць хутчэй.

Задумайцеся над такой карцінай: большасць дэпутатаў — старшыні Саветаў розных узроўняў, абласных, гарадскіх, раённых і іх намеснікі. Усе яны сядзяць месяцамі ў парламенце. Але хто за іх працуе на месцах? Кажуць, што рэферэндум, рэарганізацыя прывядуць ледзь ці не да хаосу. Ды большага хаосу, чым сёння, не будзе. Не трэба баяцца, што на змену аднаму лідэру прыйдзе другі, а затым трэці. Будзем адбіраць метадам спробаў і памылак. Галоўнае, каб была ахвота працаваць, а ў парламенце ёсць маладыя хлопцы, чалавек дваццаць, здольныя працаваць.

Сёння чуеш развалжанні: распусціць ці рэарганізаваць Вярхоўны Савет? Што ні рабі, а яго нельга рэарганізаваць. Гэта ўсё хітрыкі — пад выглядам рэарганізацыі пазбавіцца ад дэпутатаў, якія не даюць спакойна жыць, і стварыць для сябе ціхае балотца, каб ніхто не турбаваў. Ну і яшчэ адна прычына: калі няма ніякіх вынікаў, пачынаюць праводзіць рэарганізацыю, каб уключыць новы пункт адліку. У нашым Вярхоўным Савеце такая ж сітуацыя. Яго лідэры намагаюцца правесці рэарганізацыю, каб уключыць яшчэ раз гадзіннік, як шахматысты: каб адзін быў у цэйтноце, а другі яшчэ нейкі час мог пасядзець. Не падумаць, а проста пасядзець.

Таму маё стаўленне да рэферэндуму адназначнае. Толькі я крыху іншы шлях яго рэалізацыі выбраў бы. У першую чаргу абавязкова прымусіць (іншага слова не падбяру — прымусіць) цяперашні Вярхоўны Савет прыняць Канстытуцыю і новы Закон аб выбарах. Ды паспрабуйце прымусіць! А заклікаць да высокай грамадзянскай свядомасці...

— **У вашай праграме, Генадзь Дзмітрыевіч, ёсць адно хісткае месца — беларуская мова ў нашым жыцці. Калі не памыляюся, Партыю народнай згоды ўжо дакаралі за тое, што яна не аддае прыярытэту беларускай мове, а выступае за шырокае карыстанне рускай. Ці не змяніліся вашы пазіцыі!**

—Не магу пагадзіцца з такім сцвярджэннем, хаця падстава для гэтага ёсць: на ўстаноўчым з'ездзе некаторыя дэлегаты выступалі менавіта з такіх пазіцый — каб асноўнай мовай у Беларусі была руская. Гэта і дало падставу «Народнай газеце» адпаведным чынам падрэдагаваць і прыпісаць ПНЗ ледзь ці не русіфікатарскія намеры. Хачу запэўніць, што гэта не так — наша партыя ставіла і будзе ставіць пытанне аб беларускай мове як аб дзяржаўнай. Дзіўна і недарэчна было б з нашага боку заяўляць, што мы дамагаемся поўнага суверэнітэту сваёй дзяржавы і не хочам сваёй мовы.

У статуце ПНЗ запісана, што мы падтрымліваем усе законы, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі, а гэта значыць — і Закон аб мовах таксама.

Інтэрв'ю вёў
Вацлаў **МАЦКЕВІЧ.**

# СЯДЗЕМ У СВОЙ АЎТОБУС



У Мінску на плошчы Незалежнасці прадстаўнікі беларускага ўрада, прамысловых прадпрыемстваў, жыхары горада мелі магчымасць пазнаёміцца з аўтобусамі нямецкай фірмы «Неаплан», якія ў недалёкай будучыні пачне выпускаць Мінскі аўтамабільны завод.

Адбылася гэта падзея 3 чэрвеня.

Каб не купляць ката ў мяшку, члены беларускага ўрада на чале з прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам вырашылі праехаць у якасці пасажыраў на аўтобусе вядомай нямецкай фірмы «Неаплан» з Штутгарта. Менавіта гэта машына будзе прататыпам першых беларускіх аўтобусаў. Да іх вытворчасці рэспубліка прыступіць адразу пасля падпісання ўсіх дакументаў з нямецкім бокам. А пакуль да выпуску камфартабельных машын рыхтуюцца многія прадпрыемствы Беларусі. Над чатырма відамі экалагічна чыстых рухавікоў працуе Мінскі маторны завод. За электроннае начынне салона «Неаплана» ўзяўся «Інтэграл». Шкло, абіўку для крэслаў, пластмасавыя дэталі, шыны паставяць іншыя прадпрыемствы-сумежнікі.

— Некалькі дзесяткаў заводаў, у тым ліку і ваенных, будуць працаваць на гэты аўтобус, — сказаў карэспандэнтам БЕЛТА кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч. — Але асноўным партнёрам «Неаплана» стане вядомы беларускі МАЗ. З яго канвеера ўжо ў гэтым годзе сыдзе першая партыя лёгкіх, умяшчальных і прыгожых машын. У іх зручнасці я толькі што пераканаўся. Там ёсць усе атрыбуты камфорту: кандыцыянеры, кухня, тэлевізар... А да масавай іх вытворчасці мы прыступім у наступным, 1993 годзе. І на працягу бліжэйшых пяці гадоў наша рэспубліка будзе адзіным вытворцам гэтай беларуска-нямецкай мадэлі. Урад гарантуе поўную падтрымку сумеснаму праекту.

На думку саўладальніка фірмы Конрада Аўвертэра, аўтобусы будуць канкурэнтаздольнымі на еўрапейскім рынку, і Беларусь зможа гандляваць імі.

— Сваю выгаду мы бачым у тым, што наша марка стане вядомай і ў краінах СНД,—гаворыць госць. — А гэта азначае заваёву новага рынку. Але галоўная мэта нашай сямейнай фірмы — дапамагчы наблізіцца Беларусі, такой багатай інтэлектуальна, да стандартаў еўрапейскага жыцця.





# МІНСКУ—925 ГАДОЎ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Нібы сама прырода паспрыяла правядзенню юбілейнага свята: даволі халодныя дні змяніліся сонечнымі, цёплымі ,вуліцы запоўніў водар квітнеючых садоў, дэкаратыўных дрэў; плошчы і скверы расцвілі дыванамі цюльпанаў, нарцысаў...

Галоўная ідэя аб'яднання мінулага і сучаснага і стала асновай для арганізатараў урачыстасцяў, што праходзілі на плошчы Свабоды і на праспекце Машэрава.

Адкрыў свята мэр Мінска А. Герасіменка. Звяртаючыся да землякоў, ён нагадаў, што горад наш старэйшы за Маскву, Санкт-Пецярбург і Варшаву, што сёння 1 мільён 600 тысяч гараджан сумесна з усім насельніцтвам Беларусі перажываюць нялёгкія часы. І, нягледзячы на ўсе цяжкасці, неабходнасць у свяце жыве ў народзе.

Пачалося тэатралізаванае прадстаўленне, якое перанесла ўсіх, хто сабраўся, у тыя далёкія часы, калі толькі нараджаўся горад. А на яго варце стаяла смелая дружына: конныя і пешыя воіны ў кальчугах і шлемах. На гладзі Свіслачы—лодка, у ёй князь і княгіня прыбылі на свята... Верагоднасць гістарычнай сцэне надалі не толькі касцюмы, але і лобнае месца, пах свежай, толькі што прымятай травы, ржанне коней. А затым тут жа адбыўся малебен аб усіх папярэдніх пакаленнях. Іх подзвігамі і працай кавалася слава Мінска.

Не злічыць калектываў прафесійных і самадзейных артыстаў, што выступілі на свяце: ансамбль «Крыжачок», група «Верасы», тэатр «Хрыстафор»... Але, бадай, свайго роду аздабленнем свята стаў канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча. Цудоўны падарунак падрыхтаваў ён роднаму гораду ў дзень нараджэння — народныя песні і танцы. І столькі ў іх было прыгажосці, столькі шчырасці.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

# СУАЙЧЫННІК

**У №№ 20—23 газеты «Голас Радзімы» мы друкавалі нататкі Юрыя Крэйца «У Полацкай настаўніцкай семінарыі» ў перакладзе на беларускую мову Пятра Масальскага з Наддзвіння. Сёння даём некалькі штрыхоў з жыцця Юрыя Крэйца ва ўспамінах перакладчыка.**

...З Настассяй Георгіеўнай Крэйц мы не бачыліся якіх пяцьдзесят гадоў. А было калісьці, што сустракаліся тут, у Рызе, амаль штодня на працягу некалькіх гадоў — на Беларускіх настаўніцкіх курсах, на рэпетыцыях і пастаноўках спектакляў, на сумеснай рабоце ў рэдакцыі газеты «Голас беларуса», у беларускіх культурна-асветных таварыствах. Былі мы тады маладыя, поўныя няўпыннай энергіі, хоць нам часта даводзілася і галадаць. І чым бы ні займалася наша беларуская «калонія», гарачы ўдзел ва ўсім прымалі сёстры Крэйц — Настасся і Варвара, а тады для нас проста Тася і Вара.

На сустрэчу з Настассяй Георгіеўнай скіраваліся мы ўдвух з рыжанінам, беларускім мастаком Вячкам Целешам, які ведаў яе цяперашні адрас. Адбылася сустрэча стрыманая, але сардэчная. Пачаліся ўспаміны. Абое мы нібыта зноў вярнуліся ў сваю маладосць, і нашы ўспаміны былі б светлымі, калі б амаль за кожным названым імем ці прозвішчам не ўсплывала бязлітаснае: памёр, памерла, загінуў на вайне... Няма ўжо і Варвары Георгіеўны — добрай, сардэчнай, вясёлай Вары... Памёр і бацька... Настасся Георгіеўна прынесла з другога пакоя і паклала перада мною сінюю папку.

— Праца майго таты. Вазьмі, прачытай. А пасля скажаш, што з ёю рабіць.

Так трапіла да мяне сіняя, ужо выцвілая папка з пажоўклымі ад часу лісткамі, напісанымі на латышскай мове ёмістым канцылярскім почыркам. На папцы — надпіс, таксама па-латышску: «Успаміны аб Полацкай настаўніцкай семінарыі».

Пасля гэтай сустрэчы я не раз бываў у Настассі Георгіеўны, пазнаёміўся яшчэ з адной яе сястрой, Аленай Георгіеўнай. Яны далі мне звесткі пра свайго бацьку.

Юрыс (Георг) Пятровіч Крэйц нарадзіўся 16 верасня 1870 года (ст.ст.) у Латвіі ў Цэсіскім павеце ў сям'і дробнага арандатара. Калі Юрыс скончыў царкоўнапрыходскую школу, бацька хацеў аддаць яго ў Рыжскую духоўную семінарыю, ды спазніўся. У Рызе была і настаўніцкая семінарыя, але якраз тады яе перавялі ў другі канец Латвіі — у Кулдыгу, куды трэба было ехаць добры кавалак чыгункай і яшчэ якіх восемдзесят вёрст на конях. Вось і наважыліся два хлопцы — Юрыс са сваім школьным таварышам — скіравацца ў зусім супрацьлеглы бок — у Полацак, куды хадзілі цягнікі. Так латышскі хлопец, якому тады не было яшчэ і шаснаццаці гадоў, трапіў у Беларусь — у край, які стаў яму назаўсёды блізкім, народ і песні якога ён палюбіў. Тут ён пражыў лепшую частку свайго жыцця — амаль дваццаць пяць гадоў.

У Полацкай настаўніцкай семінарыі Ю. Крэйц вучыўся з 1886 па 1890 год і скончыў яе на «выдатна». Пасля гэтага быў прызначаны настаўнікам у Батукалаўскую школу Веліжскага павета. Вырваўшыся на волю пасля чатырох гадоў, праведзеных у сценах семінарыі, малады настаўнік з запалам узяўся за справу. У якой бы школе Крэйц ні працаваў, ён усюды пакідаў нешта сваё: ствараў для вучняў інтэрнаты, ладзіў канцэрты народных спеваў, садзіў ля школ дрэвы. Даводзілася і змагацца з валаснымі ўладамі. Вышэйшае школьнае начальства адпаведна «ацаніла» энергію маладога настаўніка, і Крэйца пачынаюць пераводзіць з адной школы ў другую, з аднаго павета ў другі, трэці, чацвёрты: Веліжскі, Гарадоцкі, Рэжыцкі (Рэзекненскі), Лепельскі — аж у жніўні 1899 года ён быў вымушаны назаўсёды развітацца з настаўніцтвам. Яшчэ на Лепельшчыне адбылася змена ў сямейным жыцці Ю. Крэйца — ён ажаніўся з беларускай Аленай Фролаўнай Вашкевіч.

У 1899 годзе Крэйц пераязджае ў Віцебск, працуе там спачатку канторскім работнікам на чыгунцы, пазней — чыноўнікам губернскага праўлення; адначасова выконвае абавязкі памочніка рэдактара газеты «Витебские губернские ведомости». Ад пачатку 1911 года працуе сакратаром павятовага з'езда ў Себежы, пасля — зноў чыноўнікам у Віцебску, а ў 1914 годзе пераязджае ў Волагду, дзе з 1917 года працуе памочнікам кіраўніка канцылярыі губернскага камісара, пазней — на розных адміністрацыйных пасадах у губернскім аддзеле народнай асветы.

Працуючы настаўнікам і чыноўнікам, Ю. Крэйц заўсёды знаходзіў час для самаадукацыі, вывучэння моў, музыкі, спеваў. Апрача роднай латышскай мовы Ю. Крэйц ведаў рускую, беларускую польскую, нямецкую і лацінскую. Складзеная прафесарам Я. Карскім «Праграма для збору асаблівасцей беларускіх гаворак» заахвоціла яго ў час настаўніцкай працы да запісвання твораў беларускага фальклору і збірання вырабаў народных умельцаў. Дапамагала яму ў гэтым жонка. Сабраныя матэрыялы ён пераслаў этнографу і фалькларысту М. Нікіфароўскаму і ў Віленскі беларускі музей Івана Луцкевіча.

У 1920 годзе Ю. Крэйц вярнуўся ў Латвію, дзе працаваў канцылярыстам — спачатку ў Тукумсе, пазней у Рызе. Выйшаўшы на пенсію, заняўся навуковай працай: даследаваў тэматыку латышскіх народных песень, супрацоўнічаў з этнографам і збіральнікам беларускай народнай творчасці ў Латгаліі С. Сахаравым. Яго артыкулы друкаваліся ў месячніку Міністэрства асветы, выданнях Філалагічнага таварыства, штодзённай прэсе. У публікацыях ён не раз спасылаўся на працы беларускіх вучоных.

Чатыры гады, праведзеныя ў сценах Полацкай настаўніцкай семінарыі, засталіся ў памяці Ю. Крэйца на ўсё жыццё. Успаміны ўсплывалі. Ён іх спакваля запісваў. І праз шэсцьдзесят гадоў пасля сканчэння семінарыі сабраў свае запісы, упарадкаваў і склаў у сінюю папку з надпісам «Успаміны аб Полацкай настаўніцкай семінарыі».

Памёр Ю. Крэйц на 92-м годзе жыцця, 18 студзеня 1962 года, у Рызе.

**Пятро МАСАЛЬСКІ.**

## ВЫДАННІ «ГР»

Іван САВЕРЧАНКА

Астафей ВАЛОВІЧ



**На працягу апошніх некалькіх год чытачы «Голасу Радзімы» мелі магчымасць пазнаёміцца з навуковымі працамі маладога беларускага вучонага Івана Саверчанкі, прысвечанымі дзяржаўным дзеячам Вялікага Княства Льву Сапегу і Астафею Валовічу. На старонках газеты чытач сустрэўся з драматычным лёсам Льва Сапегі, стваральніка Статута 1588 года, барацьбіта за дзяржаўную самастойнасць Айчыны. Толькі што ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшла кніжка «Астафей Валовіч» пра выдатнага дыпламата эпохі Адраджэння і Рэфармацыі.**

**Нават з гэтых кароткіх характарыстык відаць, што постаці Л. Сапегі і А. Валовіча неаддзельныя ад гісторыі Вялікага Княства, што ім належала важная роля ў палітыцы і жыцці магутнай славянскай дзяржавы.**

**Аднак амаль да апошняга часу, што нам было вядома пра Астафея Валовіча, «арыстакрата па паходжанні і гуманіста па адукацыі, патрыёта ды нястомнага змагара за свабоду Бацькаўшчыны, які меў дачыненне да многіх важнейшых падзеяў нашае мінуўшчыны! Усяго некалькі радкоў супердробным шрыфтам у БелСЭ.**

**Беларусам сёння дадзена магчымасць перажыць духоўнае адраджэнне, і яны звяртаюцца да сваіх каранёў, заглыбляюцца ў гісторыю, бо толькі там можна знайсці правільны адказ на пытанні: хто мы, адкуль мы, якія мы! На жаль, не заўсёды жаданне знішчыць белыя плямы на карце гісторыі бывае плённым. Часам сустракаемся са звычайнай падтасоўкай фактаў і імкненнем прымусіць гісторыю служыць надзённым патрэбам.**

**Работы Івана Саверчанкі, на мой погляд, пазбаўлены менавіта такіх хібаў, напісаны на падставе ўпершыню прачытаных дакументаў, абапіраюцца толькі на факты і пісьмовыя сведчанні. Пра жыццё Астафея Валовіча расказваецца ў кантэксце падзей, што адбываліся ў Вялікім Княстве і ўдзельнікам і творцам якіх быў гэты неардынарны чалавек. Ён належаў да эліты сярэдневяковага беларускага гаспадарства, меў дачыненне да зацвярджэння другога Статута Вялікага Княства 1566 года, падпісання Люблінскай вуніі, да Полацка-Інфлянцкай (Лівонскай вайны), перамог беларускага рыцарства над Масковіяй у часы гаспадарання Стафана Батуры і іншых падзей. Ва ўрадзе Вялікага Княства А. Валовіч займаў шэраг буйных пасад — найвышэйшага пісара, маршалка дворнага, падканцлера, канцлера і г. д.**

**Кніжка І. Саверчанкі «Астафей Валовіч» будзе цікавай для кожнага, каго хвалюе мінулае, далёкая гісторыя, хто зведвае гордасць за свой народ і яго справы.**

**Д. ЧАРКАСАВА.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ



# ПРАЦАВІТАЯ ПЧОЛКА

У народзе са старажытных часоў кажуць «працавіты, як пчала». І сапраўды гэтыя малюсенькія стварэнні працуюць надзіва вельмі і вельмі многа. Толькі і чуваць над квітнеючым садам ці над полем грэчкі бесперапынны гуд—пчолы збіраюць мёд, бессмяротны напітак міфічных багоў, які надаваў ім цудадзейную сілу і вынослівасць, а таксама дзіўную працягласць жыцця. Сярод вяскоўцаў да нашых дзён захаваліся паасобныя адбіткі пакланення пчолам, ці як іх тады яшчэ называлі, «боскім стварэнням».

У гэтых адносінах характэрны раздзел паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» — «Падгляд пчол». У ім даецца апісанне збору мёду на пасецы галоўнага героя твора Міхала. Прачытаўшы гэта месца паэмы, не можаш не задаць сабе пытання: «Навошта гаспадару патрэбна было на гэты момант збіраць сваіх родзічаў, наладжваць з гэтага выпадку своеасаблівы баль і потым пароўну дзяліць паміж імі мёд?» Ды яшчэ робіць гэта не сам гаспадар, а ягоны брат з адным з гасцей. Адказ на пытанне вядзе нас яшчэ ў родава-абшчынны лад, калі ўсё, у тым ліку і борці, было ў агульным уладанні родаў, і ўсё здабытае і сабранае, таксама і мёд, дзялілася паміж членамі роду. І як гэта ні дзіўна, такі архаічны звычай змог захавацца ў асяроддзі панямонскіх беларусаў аж да канца XIX стагоддзя і пад пяром Я. Коласа перарос у высокамастацкую карціну аднаго з самых светлых помнікаў нялёгкага сялянскага жыцця.

Болей таго, у Статуце Вялікага княства Літоўскага за 1588 год у раздзеле дзесятым ажно чатыры артыкулы прысвечаны борцям, бортным дрэвам і самім пчолам. Вось пра што там гаварылася: «Хто б пашкодзіў чужое бортнае дрэва з пчоламі, хвою ці дуб, ці іншае бортнае дрэва, корань ля зямлі падсек, ці хто-небудзь ненарокам выпадкова пашкодзіў, той за кожнае дрэва з пчоламі павінен будзе заплаціць па дзве капы грошай, а за пашкоджанне дрэва без пчол—капу грошай, за прызначанае пад борць дрэва—паўкапы грошай. А хто б каго сілаю, прымусова выцясняў каго-небудзь з зямлі ці з адвечных уваходаў ці таксама зладзейскім памерам абсек ці падпаліў бортнае дрэва, ці адзнакі высек або агнём выпаліў і гэта было даказана, тады павінен заплаціць гаспадару за борць з невыбраным мёдам—тры рублі грошай, за дрэва бортнае, у якім раней пчолы былі, хоць яно і без пчол, але пашкоджанае—па дзве капы грошай, за выробленае на борць дрэва, дзе пчол яшчэ не было,—капу грошай, а за ствол без борці, колькі б іх ні пашкодзіў,—за кожны па паўкапы грошай» (артыкул 13). А вось пра што гаварылася ў артыкуле 14: «Калі хто-небудзь выдраў у каго-небудзь іншага пчол з невыбраным мёдам, але дрэва не пашкодзіў, то абавязаны заплаціць за кожную пчаліную сям'ю дзве капы грошай. Калі б хто ў каго ля дома, ці на пчальніку, ці ў лесе на дрэве, з вулля ці са зробленага для іх дупла пчол выдраў ці з вуллем разам забраў і даказалі капою («капа»—не толькі грашовая адзінка, але і суд, «копны суд», калі на каго падала падазрэнне, то на суд збіраліся прадстаўнікі некалькіх блізкіх населеных пунктаў, каб на ім вырашыць неадкладныя надзённыя пытанні, у тым ліку і аб пакражы пчол. Так з архіўных дакументаў вядома, што ў в. Чухава Пінскага раёна (сучасны падзел.—**А. Н.**) у 1646 годзе збіралася «капа» ў лютым, каб разгледзець справу аб пакражы пчол з пасекі бацюшкі, які жыў у суседняй вёсцы Новы Двор) ці якім следствам, тады павінен заплаціць тры

**(Працяг на 7-й стар.).**

## ЗАМЕЖНЫ КУР'ЕР «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ТРАГЕДЫЯ ВАЧЫМА АЎСТРАЛІЙСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ

Выбух на 4-м блоку Чарнобыльскай АЭС у красавіку 1986 года да гэтага часу прыцягвае ўвагу і выклікае трывогу не толькі вучоных, але і ўсіх людзей, якія, улічваючы жудасны вопыт Хірасімы і Нагасакі, усведамляюць, што гэта можа адбіцца на здароўі і лёсах не аднаго пакалення.

Менавіта таму на працягу ўсяго гэтага часу чарнобыльская тэма не сыходзіць са старонак газет і часопісаў, і дэбаты вакол яе становяцца ўсё больш і больш вострымі, а прагнозы — страшнымі. Трэба адзначыць, што замежны друк з самага пачатку не паверыў нашай статыстыцы і даволі аптымістычным прагнозам савецкіх вучоных. Карэспандэнты з-за мяжы самі ехалі ў «зону», сустракаліся з тымі, хто там застаўся, з эвакуіраванымі і ліквідатарамі, з вучонымі і ўрачамі.

Рабілі свае аналізы і аўстралійскія журналісты, думку якіх мы і прыводзім у гэтым аглядзе. Яны супастаўлялі іх з вывадамі сваіх урачоў і вучоных і пастаянна трымалі ў курсе чытачоў Аўстраліі, адначасова як бы папярэджваючы і перасцерагаючы іх ад той небяспекі, якую нясе з сабой мірны атам. Увесь гэты час яны спрабавалі сарваць покрыў сакрэтнасці, які так шчыльна ахутваў чарнобыльскую тэму ў былым Савецкім Саюзе.

З самага пачатку і да нядаўняга часу Масква давала адну і тую ж лічбу — усяго толькі 32 смяротныя выпадкі ў выніку аварыі на ЧАЭС. Прычым, амаль усе загінуўшыя належалі да ліку працаваўшых на станцыі ці да каманды ліквідатараў. Больш таго, па іх даных, толькі 100 чалавек атрымалі апраменьванне моцнымі дозамі радыяцыі, і самае цікавае ва ўсім гэтым тое, што МАГАТЭ таксама пацвярджаў такую статыстыку.

«Такая заніжаная лічба абсурдная, але яе можна вытлумачыць. КДБ забараніў урачам гаварыць каму-небудзь што-небудзь. Акрамя таго, прадстаўнікоў МАГАТЭ яўна ўводзілі ў зман афіцыйныя асобы, якія вялі з імі перамовы, або нават іх перакладчыкі. Толькі з распадам Савецкага Саюза ва ўрачоў з'явілася магчымасць сказаць праўду. Рэальная колькасць ахвяр магчыма ў сотні, а то і тысячы разоў перавышае вышэйпамянёную лічбу»,— так карэспандэнт «Уэст Аўстраліан» каменціруе выступленне Уладзіміра Лупандзіна, урача-даследчыка, які займаецца праблемамі «зоны» і які выступіў на Міжнароднай канферэнцыі ў Маскве ў красавіку гэтага года.

Каб даказаць гэта, Лупандзін абследаваў 235 былых жыхароў беларускай вёскі Уласы, што знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад граніцы Украіны непадалёку ад Чарнобыля. Па яго даных, трыццаць пяць чалавек з ліку перасеrange жыхароў, будучы ў росквіце сіл, якія першапачаткова не адчувалі якіх-небудзь недамаганняў на працягу першых трох гадоў пасля аварыі, памерлі з таго часу ад рака. Астатнія ж пакутуюць у сучасны момант ад эндакрыннай хваробы і дыябету. Вось такі крок наперад у абнародаванні даных зроблены ў параўнанні з тым, як год назад з'явілася справаздача Міжнароднай камісіі па Чарнобылю, у якой гаварылася, што «колькасць захварэйшых пасля катастрофы амаль не павялічылася, а дзеці, на здароўе якіх больш за ўсё ўплывае радыеактыўнае апраменьванне, практычна здаровыя, высокі ж узровень захворванняў нібыта не звязаны з Чарнобылем».

Створаная ААН па ініцыятыве былога СССР камісія аб'ядноўвала 200 урачоў з 25 краін. У яе таксама ўваходзіла сем міжнародных арганізацый, уключаючы Сусветную арганізацыю аховы здароўя (САЗ) і МАГАТЭ. Трэба адзначыць, што каманда зрабіла ўсё магчымае, каб склалася ўражанне, што страты нават ад такой катастрофы, як чарнобыльская, носяць толькі кароткачасовы характар. Аналітыкі вышэйпамянёнай справаздачы сцвярджаюць, што ўсе свае суцяшальныя высновы яны зрабілі ў асноўным на неадэкватных даных, прадстаўленых савецкімі медыкамі і вучонымі. У ёй адсутнічае ўлік стану здароўя 100 000 чалавек з 30-кіламетровай зоны і не ўлічваюцца 600 000 мужчын і жанчын, якія прымалі ўдзел у мерапрыемствах па дэзактывацыі забруджанай тэрыторыі. Безумоўна, такая справаздача не магла застацца незаўважанай і не выклікаць занепакоенасці і недаверу як з боку ўрачоў і вучоных, так і з боку ўсяго грамадства.

Магчыма, што абнародаванне гэтага дакумента з такімі неадэкватнымі данымі і было адной з прычын сустрэчы ў Мінску міністраў замежных спраў Беларусі, Расіі і Украіны, якія адзначылі, што нягледзячы на тое, што пасля выбуху на станцыі прайшло шмат часу, нічога не зроблена, каб вызначыць яго прыроду, а таксама даць усеабдымную ацэнку жудасных вынікаў катастрофы. Міністры запэўнілі, што іх урады будуць ўсебакова падтрымліваць навуковае супрацоўніцтва паміж рэспублікамі, а таксама і тыя доследы, якія праводзяцца пад эгідай ААН. Міністры мяркуюць, што сам факт арганізацыі такога даследавання — гэта вельмі важны крок на шляху вырашэння канфлікту, які тычыцца колькасці ахвяр і праблем, звязаных з уплывам радыяцыі на здароўе людзей. Даследаванне ўключае праблему пастаяннай небяспекі пападання радыеактыўных рэчываў у грунтавыя воды і рэкі рэгіёна, таму неабходна выяўленне ўплыву забруджання на забеспячэнне прадуктамі. Будзе вывучацца і ўплыў Чарнобыля на псіхалагічны стан людзей, якія пражываюць у забруджаных раёнах. «Прапановы ўрадаў трох рэспублік аб'яднаць свае намаганні і супрацоўніцтва, а таксама сумесныя навуковыя даследаванні можна разглядаць як выклік супраць далейшых спроб утойвання фактаў, якія тычацца катастрофы ў Чарнобылі»,— адзначае ў аўстралійскай прэсе пісьменнік-даследчык Джуліан Крыб.

І вось праз год у сярэдзіне красавіка ў Маскве савецкія і амерыканскія вучоныя ўжо на ўвесь голас дакладвалі канферэнцыі зусім іншыя факты: «Значна большая колькасць людзей падверглася апраменьванню вялікімі дозамі радыяцыі. Небяспека пагражае і тым, хто атрымлівае невялікія дозы радыяцыі на працягу даволі доўгага часу».

Біёлаг Вячаслаў Канавалаў сцвярджае, што 8 500 чалавек з тых, хто тушыў пажар, будаваў саркафаг ці прымаў удзел у дэзактывацыі мясцовасці, ужо памерлі, а яшчэ большая колькасць — хворыя. Такім чынам, апошнія даследаванні абвяргаюць ранейшыя заявы савецкіх і некаторых іншых арганізацый, уключаючы МАГАТЭ, аб тым, што пасля выбуху на 4-м блоку не адбывалася росту колькасці захворванняў. «Ужо нават пасля таго, як пачаў рушыцца Савецкі Саюз, усё роўна не былі абнародаваны даныя аб тым, што ад 7 000 да 10 000 з 129 000 так званых ліквідатараў памерла за гэты перыяд»,— піша аўстралійская газета «Уэст Аўстраліан».

Вынікі 13-месячных даследаванняў амаль поўнасцю супадаюць з песімістычнымі прагнозамі Джона У. Гофмана, заслужанага прафесара фізічнай медыцыны з Каліфарнійскага універсітэта ў Берклі: «Амаль што мільёну чалавек пагражае небяспека, бо яны падвяргаліся доўгачасоваму ўздзеянню радыеактыўнага апраменьвання, хоць і малымі дозамі. Доўгі час нас цешылі савецкія бюракраты і прадстаўнікі МАГАТЭ, што не існуе такой з'явы, як хранічная прамянёная хвароба. Даклад жа Уладзіміра Лупандзіна сведчыць аб тым, што амаль у паловы дзяцей на забруджанай тэрыторыі выяўлены адзнакі прамянёвай хваробы, такія як запаленне лімфавузлоў, анемія, ныркавая недастатковасць, парушэнні стрававальнага тракту. Вялікая колькасць дзяцей адчувае хуткае стамленне, а ў крыві назіраецца недахоп чырвоных клетак — а гэта ўсё таксама адпавядае сімптомам прамянёвай хваробы.

Болей таго, дзеці, а таксама іх бацькі скардзяцца на крывацёк з носу, галаўны боль, парушэнне зроку, аслабленне імуннай сістэмы, што робіць іх адчувальнымі да прастуд і іншых інфекцый. Найбольшую трывогу выклікае павелічэнне выпадкаў раку шчытападобнай залозы. По вопыту Хірасімы і Нагасакі вядома, што на развіццё гэтага віду рака патрабуецца сем-дзесяць гадоў. Выкіды ж на Чарнобыльскай АЭС, вялікая колькасць якіх распаўсюдзілася разам з дажджом на значнай тэрыторыі Еўропы, у 90 разоў перавышаюць колькасць радыеактыўных рэчываў ад бомб, скінутых на Японію ў 1945. У Беларусі ў 1991 і 1992 гадах дыягнаставаны 51 выпадак захворвання ракам шчытападобнай залозы ў дзяцей (і адзін або два выпадкі за год да аварыі).

Нягледзячы на тое, што медыцынская статыстыка амаль не існуе, а таму вельмі цяжка зрабіць якое-небудзь параўнанне, відавочна, што агульны стан здароўя людзей пагаршаецца ва ўсіх без выключэння забруджаных рэгіёнах, а насельніцтва Беларусі, Расіі і Украіны жыве ва ўмовах высокай радыяцыйнай рызыкі. У справаздачах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і Дзіцячага фонду ААН адзначаецца, што сістэма аховы здароўя ў былым Савецкім Саюзе знаходзіцца ў крытычным стане з-за тых шокавых змен, якія перажывае дзяржава на шляху да рынку, а таксама з-за страты сувязей паміж рэспублікамі. Падлічана, што наступныя 18 месяцаў на медыцынскія патрэбы неабходна 550 мільёнаў долараў.

Вось так бачаць нашы праблемы журналісты з найбольш аддаленай ад нас краіны — Аўстраліі. Яны пільна сочаць за статыстыкай, разважаюць і заклапочаны лёсам тых людзей, якіх закранула чарнобыльская хмара.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

## НАША ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА

# ФУНДАМЕНТ ЗАКЛАЛІ. УЗВОДЗІМ БУДЫНАК ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Апошнім часам рэдакцыя атрымлівае шмат лістоў з-за мяжы, у якіх нашы чытачы задаюць пытанні з юрыдычна-прававой сферы адносін замежных суайчыннікаў з Бацькаўшчынай (Я. Дубчонак з Англіі, М. Мадорны з Германіі і інш.), што ў пераважнай большасці выпадкаў падлягаюць пад кампетэнцыю консульскай службы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Прычым, як правіла, нашы карэспандэнты падкрэсліваюць тую акалічнасць, што галоўная цяжкасць для іх — адсутнасць дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі ў краінах іх пражывання, а, значыць, і інфармацыі, а расійскія не спяшаюцца даваць адказ.

Сярод іншых найбольш сустракаюцца наступныя пытанні: Ці можна прыехаць на Радзіму? Якія паперы неабходна мець, каб наведаць Бацькаўшчыну з прыватнымі мэтамі? З кім трэба вырашаць пытанні спадчыны, аліментаў і г. д.? Ці можна высылаць на Беларусь пасылкі з новым і ношаным адзеннем, лекамі, харчамі? Якім чынам замежная сям'я можа аформіць апякунства ці ўсынавіць беларускае дзіця-сірату?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, мы звярнуліся ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Міністэрства замежных спраў, службу АВІР, Міністэрства народнай адукацыі. На грунце кансультацый з гэтымі кампетэнтнымі ўстановамі мы і падрыхтавалі адказ. Праўда, носіць ён абагульняючы характар, бо часам мы не маглі атрымаць яснае і канкрэтнае тлумачэнне. Ды і аб'ектыўна кажучы, сёння нялёгка даць яго. Беларусь толькі закладвае фундамент дзяржаўнага будаўніцтва. Наперадзе вялікая работа ва ўмовах жорсткага эканамічнага і палітычнага крызісу, якая акрамя іншага патрабуе значных фінансавых выдаткаў. Такім чынам:

1. Першага пытання наогул не існуе. Ніхто не можа і не хоча забараніць вам прыехаць на Радзіму. А які шлях вы выбераце — турыстам, па службоваму каналу, у складзе грамадскай дэлегацыі, прыватна — залежыць толькі ад вас.

2. Каб наведаць Бацькаўшчыну па прыватных справах, вам трэба мець на руках запрашэнне ад сваякоў, якое дасць падставу атрымаць уязную візу ў пасольстве Расіі, калі няма адпаведнага беларускага.

3. Што тычыцца спадчыны, аліментаў і іншых рэчаў гэтага зместу, то ўсё гэта знаходзіцца ў полі зроку Белінюркалегіі. Яе адрас: **Беларусь, 220100, вул. М. Багдановіча, 70. Спецыялізаваная калегія адвакатаў Рэспублікі Беларусь — Белінюркалегія.**

4. Справы, звязаныя з паштовымі адпраўленнямі, пакункамі, іх змесцівам і вагой, у кожнай краіне трактуюцца па-свойму. Таму неабходна ізноў звяртацца ў консульствы.

5. Гэта пытанне не зусім ардынарнае. Як нам паведаміў загадчык аддзела сацыяльнай абароны дзяцінства Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь Станіслаў Бубен, не існуе сёння нарматыўных актаў, якія рэгулявалі б гэты працэс. Аднак на практыцы ён мае месца. І кожны такі выпадак разглядаецца асобна, прычым з улікам ступені яго складанасці і характару, напрыклад, на які тэрмін афармляецца апякунства. Замежны ўсынавіцель павінен, звярнуўшыся ў консульства ці непасрэдна ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, выправіць неабходныя паперы: 1. Заяву з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку (калі ёсць), адрас, сямейнае становішча, якія бытавыя ўмовы мае, каб даць дзіцяці адпаведнае выхаванне. 2. Медыцынскае заключэнне, якое сведчыць аб стане здароўя заявіцеля, адсутнасці супрацьпаказанняў для выканання абавязкаў усынавіцеля. 3. Заключэнне органаў, якія займаюцца апякунствам, дзе знаходзіць пацвярджэнне наяўнасць адэкватных умоў для пражывання дзіцяці і магчымасць з боку ўсынавіцеля выконваць бацькоўскія абавязкі.

Як бачыце, амаль што ва ўсіх выпадках неабходна звяртацца ў консульства, і лепш за ўсё не ў пісьмовай форме, а непасрэдна.

**Збіраў інфармацыю**
**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# НА БЕЛАРУСКІХ ДАЧАХ У ГЛЕН СПЭЙ




У Бэлер-Менск — беларускі асяродак адпачынку, які знаходзіцца ў курортным мястэчку Глен Спэй у штаце Нью-Йорк, мы прыехалі ў самы разгар спартыўных спаборніцтваў. І адразу паспяшаліся туды, дзе кіпелі спартыўныя страсці. На пляцоўцы было «горача». Хлопцы і дзяўчаты розных узростаў, спрытныя, трэніраваныя, прыгожыя — лічыцца, што амерыканцы з павагай ставяцца да свайго здароўя і знешняга выгляду, умеюць адпачываць,— спаборнічалі у самых розных відах спорту, атрымліваючы ад гэтага, сама бачыла, вялікае задавальненне.

Балельшчыкі, якія не змаглі ці не захацелі сёння ўдзельнічаць у спаборніцтвах, абляпілі пляцоўку і крыкамі падбадзёрвалі і без таго азартных ігракоў.

— Вунь, бачыш, Юрка Кіпель, Віктар Тур, Галіна і Коля Бахары лётаюць з мячом, ты іх ведаеш,— паказала рукой Ала Орса - Рамана, якая прывезла мяне сюды з Нью-Йорка і мусіла паехаць праз колькі хвілін назад.— Верка Запруднік завядзе цябе ўвечары на забавы. Тут гуляюць да раніцы. А калі што якое, то хадзем, пазнаёмлю з іншымі.

Мы падышлі да засланых белымі абрусамі сталоў, якія павыносілі сюды, каб на свежым паветры ў прыемным цяньку са смакам з'есці толькі што зваранай кукурузы і бульбы...

— Прыміце госцю з Беларусі,— пачала Ала.— Яна журналістка. А гэта Валя Камянкова, Люда Літаровіч, Валя Рагалевіч, Казя Гайшун, Ірына Цупрык. Пакажыце і раскажыце, як мы тут адпачываем.

Але паказваць і расказваць цяпер, я зразумела, не было часу. Жанчыны спяшаліся прыбраць са сталоў, моладзь пабегла да басейна, каб асвяжыцца перад вячэрнім мерапрыемствам.

Ірына Цупрык завяла ў прызначаны мне пакойчык, уручыла ключ, загадзя папрасіўшы прабачэння за яго непрэзентабельнасць, бо цяпер сезон і ўсё лепшае занята.

Пакой і сапраўды быў сціплы. Па ўсім было відаць, што ў гэтым старым будынку пастаянна не жывуць і гаспадары яго не надта заможныя людзі, бо многае тут даўно патрабуе рамонту і абнаўлення. Дарэчы, Ірына Цупрык размясцілася ў такім самым пакойчыку разам з дачкой і двума ўнукамі. Цесната, канешне. Але ж днём у пакоі ніхто не сядзіць, ідуць у лес, на рэчку. А краявіды тут сапраўды прыгожыя і вельмі-вельмі нагадваюць беларускія. Нейкая сцішанасць, засяроджанасць прыроды адчуваецца ў гэтым кутку амерыканскай зямлі. І дрэвы тыя самыя, што ў нашым лесе, і кветкі тыя самыя, і неба тое самае, вось толькі паветра больш гарачае, напоенае цяплом, хаця і ў гарах. Тыя з землякоў, хто жыве ў вялікім горадзе, дзе шумна і тлумна, такім як Нью-Йорк, скажам, асабліва цэняць магчымасць адпачыць на ўлонні прыроды. Напэўна, менавіта старэйшае пакаленне, што вырасла ў вёсках, якія стаялі сярод густых бароў і запаведных лясоў, адчувае гэтую повязь з прыродай, сваю лучнасць з ёю, сумуе без яе. Маладзейшыя, здаецца, іншыя: больш рацыяналістычныя. Яны ведаюць, што дыхаць свежым паветрам карысна. Таму з задавальненнем і едуць у Бэлер-Менск.

Кароткая гісторыя гэтага цэнтра адпачынку беларусаў у ЗША выглядае так: 15 кастрычніка 1962 года нашымі суайчыннікамі, якія пражываюць у штатах Нью-Йорк і Нью-Джэрсі, была заснавана карпарацыя «Рэсорт Бэлер-Менск», якая тады ж і набыла дачную маёмасць «Бэлер» у Глен Спэй і пераназвала яе ў «Рэсорт Бэлер-Менск». Карпарацыя дзейнічала да 1970 года, пакуль не абанкруцілася. На скліканым надзвычайным сходзе сяброў карпарацыі яе маёмасць была перададзена дзвюм беларускім праваслаўным парафіям: святой Ефрасінні Полацкай у Саўт Рыверы і святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл у Нью-Йорку. Рэсорт быў перайменаваны ў «Рэлігійны адпачынковы цэнтр Бэлер-Менск». Вернікі абодвух прыходаў ахвярна працуюць, каб утрымліваць Бэлер-Менск.

...Ледзь толькі сцямнела, па мяне, як і абяцалі, зайшлі Галіна Бахар і Вера Запруднік, каб разам ісці на «забавы». Гэтае «ісці на забавы» пачало ўжо мяне інтрыгаваць. Дзяўчаты прыбраліся ўсё роўна, як на баль. Днём апрануты амаль аднолькава — шорты ці джынсы ды просценькая кашулька, а тут на кожнай нешта такое мудрагелістае, святочнае. Паціху ў будынку, прызначаным для грамадска-культурных патрэб, які нечым нагадвае наш клуб або Палац культуры, пачынае збірацца публіка. Паважна ўплываюць сямейныя пары, размяшчаюцца за столікамі іх дзеці і ўнукі, дамы і кавалеры. Асабліва цікава глядзець на дзетак і падлеткаў. Адчуваецца, што гэты weekend для іх даволі важная падзея. Апрануты таксама, як і дарослыя, з асаблівай стараннасцю і святочнасцю. Гуляць жа сёння можна колькі хочаш побач з дарослымі, разам з дарослымі. Хоць усю ноч, калі вытрымаеш.

Забавы распачаліся ўручэннем прызоў пераможцам спартыўных спаборніцтваў, пасля чаго на сцэну выйшлі музыканты і ўрэзалі для настрою пару мелодый, якія імгненна разварушылі залу, паднялі з месцаў хлопцаў і дзяўчат. Следам загучалі беларускія полькі і вальсы, якія ў нас моладзь звычайна «прапускае», як старамодныя танцы. А тут не, танцуюць разам ды яшчэ дэманструюць сваё ўмельства. Ну, а як грымнуў цяжкі рок, то я думала, што старэйшыя ад крыкаў сваіх юных нашчадкаў, якімі тыя суправаджаюць скокі, паразбягаюцца ці пачнуць сварыцца. Зноў спакойна.

Здаецца, ужо пад раніцу самыя стойкія выбраліся на рэчку — пакатацца на лодцы, сустрэць усход сонца. Так закончыліся забавы, пабыўшы на якіх, я лепш пачала разумець, чаму розныя пакаленні нашых суайчыннікаў — бацькі, дзеці і ўнукі тут, у Амерыцы, трымаюцца разам адной грамадой. Існуе і дзейнічае няпісаны закон цярпімасці. Я не хачу сказаць, што ўвогуле тут не існуе супярэчнасцей паміж пакаленнямі, праблемы бацькоў і дзяцей, але тое, што ўзаемная цярпімасць збліжае духоўна людзей старэйшага веку і зусім юных, гэта відавочна. Інакш Бэлер-Менск даўно ператварыўся б з месца, куды на забавы ездзіць моладзь, у своеасаблівы дом адпачынку, дачы для пенсіянераў.

Назаўтра з раніцы, калі яшчэ адпачывала большасць з тых, хто прымаў удзел у забавах, я вырашыла зрабіць экскурсію па тэрыторыі Бэлер-Менска. Гідам стаў спадар Міхась Сенька, адзін з дырэктараў рады, якая кіруе цэнтрам адпачынку.

Міхась Сенька — мяккі, інтэлігентны чалавек, якога шануюць тут усе за ягоную самаахвярнасць на карысць беларускай грамады, чалавечую мудрасць і разважлівасць характару. Спадар Міхась добраахвотна ўзяў на сябе абавязкі кухара ў Бэлер-Менску. Занятак гэты не дае яму прыбытку, ды і ўвогуле зусім не дзеля грошай узяў тую працу, у адрозненне ад савецкіх пенсіянераў, якім ніяк не пражыць на сваю мізэрную пенсію. Спадар Міхась добра забяспечаны, мае пенсію па старасці і плаціць яму яшчэ прадпрыемства, дзе працаваў. Таксама «Фордам» аплачана яго медыцынскае абслугоўванне.

Гатуе М. Сенька смачна, усім падабаецца. Праўда, гэта не азначае, што ён цэлы дзень стаіць каля пліты. У амерыканскіх маркетах можна набыць абсалютна ўсе прадукты-паўфабрыкаты, якія трэба толькі падагрэць ці закіпяціць. Садавіна, гародніна — усяго поўна. Можна з раніцы падскочыць на машыне ў маркет і ўзяць усё свежае. Карацей, гэта зусім не праблема. Тым больш, што ў кожнага ў пакоі ёсць халадзільнік, дзе заўсёды запас прадуктаў.

Міхась Сенька расказаў мне, што цяпер ён на пенсіі і можа цалкам прысвяціць сябе беларускім справам. Хаця і раней, калі працаваў у Форда на канвееры, таксама актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці нашай эміграцыі.

Лёс Міхася Сенькі шмат у чым падобны на лёс суайчыннікаў, якія мусілі ў канцы вайны пакінуць радзіму, бо за тое, што вучыўся ў час нямецкай акупацыі Беларусі на медыцынскіх курсах у Баранавічах, яму пагражала турма, лагеры. Хацеў чалавек быць карысным свайму краю, а прыйшлося жыць у Нямеччыне, пазней — у ЗША.

— Паглядзіце на нашу капліцу,— запрасіў М. Сенька ў невялічкі домік.— Кожную суботу і нядзелю, падчас сезона, тут адбываюцца Божыя службы. Капліца была асвячона ў гонар Смаленскае іконы Божай маці «Адзігітрыі», пісанай, паводле падання, апосталам Лукою. Тут адбываюцца праваслаўныя і рыма-каталіцкія богаслужэнні.

Дарэчы, на спартыўных пляцоўках Бэлер-Менску праходзяць не толькі гульні дзятвы, але і спартыўныя спаборніцтвы больш высокага рангу, у якіх удзельнічаюць беларусы з Амерыкі і Канады. А ў той зале, дзе ўчора ладзіліся забавы,— з'езды і нарады беларускіх грамадскіх арганізацый і ўстаноў.

Асаблівы клопат Міхася Сенькі — басейн. Тут, сярод лесу, які ўтрымліваецца ў натуральным стане, ён выглядае дзіўнай казкай. Блакітная кафля робіць і ваду блакітнай... Усё як новенькае, хаця існуе ўжо не першы год.

Мой гід цяжка ўздыхае, і мы спускаемся ў службовыя памяшканні басейна, адкуль механічна ажыццяўляецца спуск і падача вады, яе дэзінфекцыя, а таксама награванне да патрэбнай тэмпературы. Абсталяванне паднасілася, трэба рамантаваць; патрэбны грошы, каб нехта даглядаў усю гэту гаспадарку. Пакуль жа многае трымаецца на энтузіязме асобных людзей.

Пакуль гулялі з Міхасём Сенькам, які знаёміў мяне з Бэлер-Менскам, прачнуліся адпачываючыя. Мужчынская кампанія яўна з мэтай пагутарыць ці нешта запытацца наблізілася да нас.

— Дык вы што, у «Голасе Радзімы» працуеце? — расчараванa і адначасова ўстрывожана пацікавіўся адзін з іх.

— Ну і газета... Такое пра нас пісалі, што дасюль камяк у горле. Мы яе не хацелі атрымліваць, назад адпраўлялі. Цяпер да здраднікаў прыехалі?..

— Чаго ты накінуўся на чалавека?! — абарваў нехта пакрыўджанага і да глыбіні душы абражанага сябра.

— Яна ж маладая. Не яна ж пісала... Хіба не разумееш?

Мужчынам, што прыйшлі пагутарыць, стала неяк няёмка, мне таксама. Адчувалася: яны шкадуюць, што размова так пачалася. Але я, па праўдзе, была гатова да такога павароту, хаця, як кажуць, ні сном, ні духам... Прыехала якраз з самымі добрымі намерамі, перакананая ў тым, што палітычная эміграцыя з Беларусі ў пераважнай сваёй большасці — ахвяры савецкага рэжыму, якія несправядліва былі абвінавачаны ў смяротных грахах перад радзімай.

Але апраўдвацца ў такой сітуацыі, нешта тлумачыць людзям, якія і сапраўды павінны адчуваць крыўду і боль, не мела сэнсу.

Каб неяк згладзіць непрыемны інцыдэнт, пачалі зусім пра іншае. Пра тое, што ёсць праблема з музыкантамі, якія іграюць у Бэлер-Менску. Уладзімір Бычкоўскі, кіраўнік ансамбля, паскардзіўся, што хлопцы больш ведаюць украінскі рэпертуар, ды і ўвогуле яны ўкраінцы па нацыянальнасці, а сваіх, беларусаў, не адшукаць... Сапраўды, перад нашай эміграцыяй, якая ў вельмі цяжкіх варунках здолела захаваць сваё нацыянальнае аблічча, не расеяцца, не згубіцца і не разгубіцца, паўстаюць у перспектыве даволі сур'ёзныя праблемы. І ў нечым, між іншым, мы ім можам і павінны цяпер паспрыяць. Бо надта ж доўга Радзіма адмаўляла ім у дапамозе і элементарным разуменні.

...Развітанне з Бэлер-Менскам і маімі новымі знаёмымі было светлым і шчымліва-сумным. Уладзімір Бычкоўскі сядзеў ля доміка на лаўцы і іграў беларускія мелодыі на баяне. Вакол яго, як быццам на вясковай вуліцы, збіраліся жанчыны, бегалі малыя... Усе гаманілі тут па-беларуску, нават трохгадовы Мацейка, думалі па-беларуску. Момантамі я нават забывалася, што знаходжуся ў Амерыцы.

Пад'ехала машына — трэба было адпраўляцца ў Нью-Йорк. Уладзімір Бычкоўскі зайграў «Беларусачку». І мы з Міхасём Сенькам закружыліся пад знаёмую мелодыю, забыўшы нават, што вакол людзі, якія са здзіўленнем глядзяць на гэтыя імправізаваныя забавы.

З машыны паклікалі, і я мусіла, не скончыўшы танца, адарвацца ад Міхася. Той замёр у адразу наступіўшай цішыні, а па добрым яго твары пацяклі слёзы. Аб чым плакаў гэты немалады, моцнага характару чалавек? Напэўна, засумаваў па Беларусі, адкуль я прыехала, ціха плакаў па сваёй маладосці, па неажыццёўленых надзеях і марах.

Я таксама не магла стрымаць слёз.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# ВОСЕМ ДЫПЛОМАЎ З ТАЛІНА

Чарговы дваццаць чацвёрты раз прайшоў традыцыйны конкурс «Мастацтва кнігі» Беларусі і краін Балтыі. Сёлета — у Таліне. Па ўмовах яго кожная дзяржава прадстаўляла 15 назваў кніжнай прадукцыі і тры назвы выяўленчых ці ,мініяцюрных выданняў. Прысуджалася 25 дыпломаў за кнігі і 5 — за лепшыя ўзоры выяўленчай прадукцыі.

Беларусь атрымала 8 дыпломаў. Лаўрэатамі конкурсу сталі зборнік беларускіх народных казак «Хітрэй свету не будзеш» (мастак Т. Беразенская) і аповесць Д. Фінемара «Сказ пра Робін Гуда» (мастак А. Шэвераў), выпушчаныя выдавецтвам «Юнацтва»; кніга К. Тарасава «Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны» (мастакі А. Александровіч, І. Дзямкоўскі, П. Семчанка, выдавецтва «Полымя»); драматычная паэма М. Арочкі «Судны дзень Скарыны» (мастак М. Купава) — яна пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура»; даследаванне І. Юхо «Крыніцы беларуска-літоўскага права» (мастак В. Латышаў), «Супрематическая азбука» А. Кітаевай (мастак А. Кітаева), насценны каляндар «Беларускія абразы» (укладальнік Н. Высоцкая, мастак А. Свірыдава) — усе выпушчаны выдавецтвам «Беларусь» — і мініяцюрнае выданне М. Багдановіча «Мае песні (укладальнік Л. Смолій, мастак Г. Грак, Беларускае таварыства «Кніга»).

## *НЕ МАЎЧЫЦЬ ДАЎНІНА*

Дзве экспазіцыі прывабліваюць увагу наведвальнікаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Адна з іх пад назвай «З калекцыі князя Паскевіча» прапанавана са збору Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Другую — «Старажытнабеларускі іканапіс і рэдкая кніга на Беларусі» — падрыхтавалі гаспадары сумесна з Дзяржаўнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь. Ёсць яшчэ адна магчымасць далучыцца да нашай багатай гісторыі, у многім зразумець, як жылі мы раней.

# ІГРАЕМ «ДЗІЦЯ ВІФЛЕЕМА»



У канцы мая тэатр-студыя кінаакцёра ў Мінску запрасіў гледачоў на чарговую прэм'еру. Публіка сабралася багемная, прыбліжаная да тэатральных колаў, патрабавальная і даволі скептычная. Ішлі не проста на прэм'еру, а на «Таццяну Мархель», вядомую артыстку, а таксама «на не менш вядомы дуэт бацькі і сына Пузыняў», якія, як было абвешчана, удзельнічаюць у спектаклі і іграюць на народных інструментах. Канешне цікавасці дабаўляла і імя рэжысёра Мікалая Пінігіна, які зарэкамендаваў сябе папярэднімі пастаноўкамі, асабліва «Тутэйшымі» Янкі Купалы, што сталі з'явай у культурным і грамадскім жыцці Беларусі.

І вось дзея распачалася. На вачах у гледача двое акцёраў расклалі батлейку, з аднаго боку каля яе прымасціліся музыканты, а з другога — падышла жанчына, апранутая ў народныя строі, якая па задуме павінна была ўвасабляць асобу, што кіруе ўсім гэтым батлеечным прадстаўленнем. Яна расказвала прысутным пра шлях Хрыста: як ён нарадзіўся, хрысціўся, пра яго справы, учынкі, смерць і ўваскрэсенне, спявала беларускія народныя абрадавыя песні, а на сцэне разыгрывалася традыцыйнае батлеечнае прадстаўленне, дзе ўдзельнічалі цар Ірад і яго верныя служкі, усемагутная смерць...

Гэты кароткі ўвогуле спектакль (усяго 40—45 хвілін), мала падобны на драматычнае дзеянне, як бы збянтэжыў нават тых сталічных знатакоў, якія ўсяго пабачылі. Рэдкія апладысменты пасля заканчэння спектакля былі таму пацвярджэннем.

— Не трэба здзіўляцца, бо гэта не камерцыйная пастаноўка,— растлумачыў пазней рэжысёр-пастаноўшчык М. Пінігін.— Спектакль, які вы ўбачылі, я думаю, не будзе збіраць вялікую аўдыторыю, ды ён і не разлічаны на яе. На прафесійнай сцэне ўпершыню зроблена спроба ажыццявіць такое сінтэтычнае відовішча, рэканструяваць сродкамі сучаснага мастацтва такую з'яву нашай нацыянальнай культуры, як батлейка. Я нават скажу: тое, што вы ўбачылі, вельмі ўмоўна можна назваць спектаклем. Хутчэй гэта культурная акцыя, адраджэнцкая. Мы хацелі ажыццявіць даволі дзёрзкую ідэю — спалучыць хрысціянства праваслаўнае, якое ёсць у батлейцы, з проста народным поглядам на яго. Адначасова, спалучыўшы паганскае ўяўленне пра свет з праваслаўным хрысціянствам, сказаць, што гэта амаль адно і тое ж — у сэнсе не канфесіянальных ці там царкоўных рэлігійных уяўленняў, а ў сэнсе паэзіі. Я лічу, што язычніцтва стала з цягам часу проста паэзіяй народа, а ніякай не верай. А ў беларусаў язычніцтва займае даволі значнае месца ў светапоглядзе.

Для інфармацыі: літаратурнай асновай дзеі «Дзіця Віфлеема» стала Евангелле ад Мацвея (Беластоцкае выданне) і арыгінальнае прадстаўленне батлейкі былога Віцебскага павета, а таксама малітваў, народных песень Смалявіцкага раёна, якія запісала ад сваёй маці і выконвае артыстка Таццяна Мархель.

Як вы зразумелі, небанальнае тое відовішча, прэм'ера якога адбылася на сцэнічных падмостках, разлічана на паказ якраз не ў тэатры. Батлейку ігралі, як вядома, на кірмашах, у вясковай хаце, проста на лузе. Батлейка была вельмі кампактнай, уся змяшчалася ў невялікія скрыні. А акцёры лёгка маглі рухацца, вандраваць па ўсёй Беларусі.

Адпавядае традыцыі і «Дзіця Віфлеема». Гэты своеасаблівы мона-спектакль артысты мяркуюць паказваць у навучальных установах, проста недзе на вуліцы ў горадзе ці ў вёсцы, там, дзе ёсць блізкі кантакт з гледачом.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКУ:** сцэна з пастаноўкі «Дзіця Віфлеема». Артысты Ю. КАЗЮЧЫЦ, Таццяна МАРХЕЛЬ, Уладзімір і Алесь ПУЗЫНІ.

**Фота В. СТАВЕРА.**

# КНІГІ НАШАГА ЗАМЕЖЖА

Кнігі і перыядычныя выданні, выпушчаныя ў замежных краінах прадстаўнікамі беларускага замежжа, экспануюцца на выставе ў Дзяржаўнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь імя У. І. Леніна. Сярод іх кнігі М. Сяднёва, А. Салаўя, К. Акулы і іншых аўтараў, «Англійска-беларускі слоўнік» і «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразеалагічны і прыказкаў» Я. Станкевіча, даследаванні Л. Гарошкі «Паходжанне чалавека ў святле сучасных знаходкаў», «Навука і рэлігія», альбом У. Шнэка «Беларуская краёвая абарона: уніформа і адзнакі», фальклорна-этнаграфічныя выданні «Чатыры ўрачыстасці» А. Варлыгі, яго ж «Забабоны»...

# ФЕСТЫВАЛЬ ЮНЫХ ТАЛЕНТАЎ

**Трэці рэспубліканскі фестываль юных талентаў «Сымон-музыка», што прайшоў на радзіме Якуба Коласа, быў асаблівы. Ён прысвячаўся 110-й гадавіне песняра і 25-годдзю з дня адкрыцця першага філіяла музея народнага паэта ў Смольні. Цяпер іх тры (яшчэ ў Акінчыцах і Альбуці). Другі дзень фестывалю так і пазначаўся ў праграме: «Слова пра Коласа». Урачыстасць адбывалася на сядзібе ў Смольні. Тут пасля вяртання з мінскага астрога жыў паэт, тут у 1912 годзе ён упершыню сустрэўся з Янкам Купалам. У Смольні Колас абдумваў і пачынаў пісаць паэму «Сымон-музыка».**

**Прыехалі госці з Мінска — радня Якуба Коласа, навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы мастацтва... Пра дзейнасць філіяла расказала дырэктар Літаратурнага музея народнага песняра Зінаіда Камароўская. Выступіў сын Якуба Коласа, заслужаны работнік культуры Беларусі Даніла Міцкевіч.**

**Народны артыст рэспублікі, кампазітар Анатоль Багатыроў прыгадаў свае сустрэчы з Якубам Коласам, расказаў, як ён пісаў оперу «У пушчах Палесся» паводле аповесці «Дрыгва».**

**Юных выканаўцаў віталі, гаварылі цёплае слова пра незабыўнага песняра пісьменнікі Максім Лужанін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, Барыс Сачанка, работнікі мінскіх музеяў.**

**З надзвычайнай увагай слухалі прысутныя выступленне міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі. У Смольню ён прыехаў адразу ж пасля вяртання з Ташкента, дзе браў удзел у нарадзе кіраўнікоў СНД. Шаноўны госць, у прыватнасці, сказаў: «У Ташкенце знікаюць назвы многіх вуліц. Але ёсць упэўненасць, што вуліца Якуба Коласа будзе існаваць. Мы павінны рабіць усё магчымае, каб слава пра такіх людзей разыходзілася па ўсім свеце».**

**Затым сваё майстэрства паказалі юныя артысты — музыканты, спевакі, танцоры. А назаўтра пераможцаў фестывалю чакалі ўзнагароды ў Доме культуры калгаса «Нёман», дзе адбыўся заключны канцэрт.**

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

**НА ЗДЫМКУ:** выступае сын Якуба Коласа Даніла МІЦКЕВІЧ.

**Фота В. САВІЧА.**



# ПРАЦАВІТАЯ ПЧОЛКА

(Працяг. Пачатак на 4-й стар.)

рублі грошай, за выключэннем таго, каго злавілі з пакражаю, такога, як злодзея, павінны **прыгаварыць да смяротнага пакарання** (падкрэслена мною.— **А. Н.**). А калі хто ў чыім-небудзь лесе наўмысна пасек і мёд выбраў, той за гэта павінен заплаціць шэсць рублёў грошай».

Як бачым, вельмі строга ахоўваліся правы людзей, якія валодалі борцямі, і, з другога боку, вельмі суровым было пакаранне за разбурэнне борцяў ці пакражу пчол, бо тры ці шэсць рублёў — гэта занадта вялікія грошы для таго часу, а таго, каго злавілі на месцы злачынства, чакаў смяротны прысуд. Нічога не зробіш. Нашы продкі жылі па сваіх, патрыярхальных законах, якія ў многім адрозніваліся ад сучасных.

Менавіта на беларускім Палессі (маецца на ўвазе тэрыторыя Беларусі.— **А. Н.**) узнік своеасаблівы лясны промысел, які, дзякуючы свайму шырокаму распаўсюджванню і велізарнаму эканамічнаму значэнню, прадвызначыў на некалькі стагоддзяў характар развіцця гэтага ляснога краю. Промысел гэты атрымаў назву бортніцтва (ад слова «борць» — штучна выдзеўбанае ў дрэве дупло для пчол). Ён і па наш дзень вядомы ў некаторых усходнееўрапейскіх народаў: усходніх і заходніх славян, літоўцаў, чувашоў, мардвы, башкіраў і многіх іншых, у якіх на працягу стагоддзяў складваліся вельмі падобныя традыцыі бортніцтва.

На Палессі зараз засталося толькі некалькі борцяў, дзе па-ранейшаму жывуць пчолы. А калісьці борцяў былі многія тысячы! З-за інтэнсіўнага вынішчэння масіваў лесу бортніцтва згінула на нашых з вамі вачах. У невялікіх лясных вёсачках дажываюць свае дні і апошнія бортнікі, узрост якіх ужо вельмі сталы. Патрэбна адзначыць таксама, што праца бортніка патрабавала вялікіх практычных ведаў, спрытнасці і немалой фізічнай сілы. Борць выдзёўбвалі задоўга да раення пчолак, часцей за ўсё ў хвоі ці дубе, на якія бортнік узбіраўся пры дапамозе спецыяльнай прылады — лезіва. Доўгія гадзіны даводзілася вісець высока над зямлёю, выдзёўбваючы новую борць, якую потым нярэдка пазначалі спецыяльным знакам. Знакі часта называлі бортнымі знаменамі. Ва ўладаннях аднаго бортніка было па некалькі дзесяткаў бортных дрэў, а ў некаторых дрэвах знаходзілася па тры, а то і болей борцяў. Такія дрэвы асабліва цаніліся і былі гонарам гаспадара. У Вялікім княстве Літоўскім некаторыя бортнікі, у асноўным гараджане і дробная шляхта, аб'ядноўваліся ў асобныя прафесійныя карпарацыі — цэхі, якія мелі ўласныя статуты, знамена і рытуал. Індустрыя бортнага промыслу і перапрацоўкі яго прадукцыі была вельмі развітай, аб чым сведчыць як назва спецыяльнасцей, звязаных з промыслам і перапрацоўкай мёду і воску, так і градацыя паселішчаў і рэгіёнаў, дзе займаліся пераважна бортніцтвам.

Майстар-бортнік карыстаўся вялікай колькасцю самых розных інструментаў, якія дапамагалі яму на ўсіх этапах яго нялёгкай (а падчас і небяспечнай) працы. Некаторыя з іх ён рабіў сам, іншыя купляў у горадзе ці заказваў іх мясцоваму кавалю, цесляру. Усе гэтыя інструменты таксама пазначаліся нейкімі знакамі, якія ўказвалі на прыналежнасць канкрэтнаму бортніку. Што датычыць знаменаў на борцях, то «пісьмёны» з'явіліся, магчыма, яшчэ тады, калі ў славян увогуле не было ніякай пісьменнасці. Не выключана, што бортныя знамена прайшлі шматвяковую градацыю ў сваім развіцці. Гэта свайго роду сялянская геральдычная сістэма, дасканала разабрацца ў якой пакуль што цяжкавата. Прафесія бортніка перадавалася ў спадчыну ад бацькі да сына, якога ён з малых гадоў знаёміў з усімі таямніцамі старажытнага рамяства. І на самай справе, каб перасяліць рой у новую борць, здзяйснялася цэлае таямнічае дзеянне — тварба, у склад якой уваходзіла і своеасаблівая інсцэніроўка будучага збору мёду з заклікамі і замовамі, а таксама апырскваннем настоем з кветак і траў, абкурванне верасам, націранне і г. д. Не дзіўна, што толькі перад самай смерцю бортнік паведамляў свайму пераемніку самыя глыбокія таямніцы. Ён вучыў яго варажыць і перадаваў свой бортны знак, які амаль заўсёды складваўся са спалучэнняў розных па велічыні і форме трохвугольнікаў, дужак, колцаў, рысачак.

Крыху пазней, калі пачаўся заняпад бортніцтва, як мы ўжо адзначалі, у сувязі з вынішчэннем спрадвечных лясоў, у Беларусі пачало развівацца калоднае пчалярства, пры якім дупло для пчол выдзёўбвалася не ў жывым дрэве, а ў яго адсечанай частцы, якую і называлі ў народзе калодай або вулеем. Калоды звычайна развешвалі на дрэвах або на спецыяльна прыстасаваных для гэтай мэты падкурах, якія былі прымацаваны да ствала дрэва або стаялі на зямлі. Для абароны вулляў ад мядзведзяў (а іх яшчэ нават на пачатку нашага стагоддзя на Беларусі было даволі многа), выкарыстоўвалі падкуры з убітымі знізу

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПРАЦАВІТАЯ ПЧОЛКА

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

вострымі драўлянымі ці жалезнымі цвікамі. Абаронай ад мядзведзяў служылі і іншыя прыстасаванні. Самае распаўсюджанае з іх—самабітка. Да гэтага часу на самых вялікіх дрэвах, якія растуць у лясах, можна бачыць тысячы такіх, звычайна пустуючых калод, што застаюцца своеасаблівым напамінам аб адышоўшым промысле, аб адной з самых істотных рыс былой культуры сялян.

Цяпер паспрабуем адказаць на пытанне, якое цікавіць многіх чытачоў. Адкуль з'явіліся на свеце працалюбівыя пчолкі? Паводле рускіх вуснапаэтычных паданняў, пчолы з'явіліся на свет божы такім манерам. Неяк закінулі рыбакі ў возера свой вялікі невад і чакалі, што выцягнуць добры ўлоў, але на гэты раз выйшла ўсё наадварот: у невадзе быў толькі адзін пчаліны рой, ад якога і расплодзіліся астатнія пчолы. Калі патрыярхальны чалавек пачынаў майстраваць свае борці ці пчальнік, то дараваў (ці прыносіў у ахвяру) вадзяніку самы лепшы рой, таму што лічылася, быццам бы менавіта вадзянік валодае жыццямі пчол. Гаспадар пакідаў рой у балоце, а часам спецыяльна забываў на пчальніку. У першым выпадку вадзянік значна памнажае колькасць пчол і дарue мноства воску і мёду, у другім—ахоўвае пчолак ад усялякіх здарэнняў (маецца на ўвазе захворванняў.—**А. Н.**). Вельмі часта пчалу ў народзе параўноўвалі з маланкай. Тут, мабыць, асноўную ролю адыграла тое, што пчала таксама, як і маланка, хутка лётае і балюча кусаецца. Праўда, патрэбна агаварыцца: для адных такія ўкусы з'яўляюцца шкоднымі, а для іншых—лячэбнымі, якія ляжаць у аснове народнай медыцыны. Здаралася, што пчалу параўноўвалі з дзятлам (дзяцел у народнай міфалогіі быў прадвеснікам маланкі). Казалі: раз дзяцел сядзіць на страсе і стукае сваёй дзюбай, то ў гэтым будынку абавязкова ў бліжэйшыя дні будзе шугаць полымя, запаленае маланкай. Таму, калі на хату асядаў пчаліны рой, то, на думку патрыярхальных людзей, хутка павінен будзе здарыцца пажар.

Як мы ўжо вышэй згадвалі, пчала лічыцца ў народзе свяшчэннай істотай, нярэдка яе завуць «божай». Таму адзіным месцам, дзе мог схавацца нячысты дух, ці нячысцік, быў вулей або борць. Сюды не мог біць сваёй маланкай нават Ілля-прарок, якому ўсе іншыя мясціны былі даступныя. Праўда, старажытныя беларусы адзначалі, што, напрыклад, ад яго стрэл чарцей выратоўвае балота, куды ён таксама не пажадаў лезці. Каго ўкусіць пчала, гаварылі патрыярхальныя людзі, той грэшны чалавек, калі ў нейчы двор залятаў рой, то гаспадар мог смела радавацца: яму прывалíла шчасце. Нават, калі ў хаце, дзе-небудзь пад вуглом ці пад падлогай, звілі сваё кубло восы, то гаспадар не асмельваўся яго разбураць, бо за гэта на яго магло зваліцца нечаканае няшчасце.

Чамусьці старажытныя людзі вельмі часта параўноўвалі пчолак з начнымі зоркамі. І сапраўды, калі пільна прыгледзецца, яны падобныя: гэтак жа нечакана з'яўляюцца і знікаюць, а тыя, што быццам бы свецяць пастаянна, таксама неяк бліскаюць-міргаюць—усё гэта заўважылі нашы прашчуры і ўдала параўналі з зямнымі істотамі. І ў значна пазнейшы гістарычны час грэкі лічылі, што мёд пасылаюць на зямлю нябесныя зоркі, а пчолы збіраюць з кветак толькі воск. На небе ў зорак-пчолак быў і свой цар, яго роля, калі верыць міфам розных народаў свету, належала месяцу. Вакол яго зоркі ў начны час водзяць свае карагоды, а днём іх замяняюць пчолкі, якія спусціліся на зямлю і там працягваюць насіць мёд у вуллі.

Можна яшчэ прыгадаць і тое, што ў рускіх народных казках, калі герой наймаецца на службу да Бабы-Ягі, то тая прызначае яго на вельмі адказную пасаду: сцерагчы коней, якія ўсялякі раз імкнуцца разбегчыся ў розныя бакі. Але яму дапамагаюць незвычайныя сябры-памочнікі—пчолы. Яны даганяюць коней, пачынаюць іх кусаць, і тым нічога не застаецца, як вярнуцца назад. Толькі гэтак казачны персанаж выконвае цяжкія выпрабаванні і дасягае сваёй мэты.

Вось і ўсё, што даведаліся мы пра міфалагічнае мінулае самых звычайных пчолак, гуду-звону якіх у апошнія часы мы не надаём асаблівай увагі.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**



# МІНСКУ—925 ГАДОЎ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Ну, а якое ж свята без кірмашу, без абноў! Тут іх можна было набыць на любы густ. Пра гэта паклапаціліся вучні прафтэхвучылішчаў Мінска і Мінскай вобласці. Для святочнага гандлю была адведзена цэлая плошча. Прадавалі ўсё: адзенне, мэблю, вырабы народных майстроў.**

**Вялікая культурная праграма была прызначана не толькі для дарослых, але, і для дзяцей. Спаборніцтвы і паказальныя выступленні коннікаў — студэнтаў сельгастэхнікума з Іллі (Вілейскі раён), малая рэгата на Свіслачы, выступленне дзіцячага цырка Палаца культуры чыгуначнікаў, спектакль «Дзень нараджэння ката Леапольда» (тэатр «Верасень», Мазыр) і іншыя.**

**Завяршылася свята феерверкам. Вось і яшчэ адно свята мінчан запісана ў гісторыю горада. Чымсьці яно, вядома, запомнілася. Не было ў яго таго размаху, як раней, бо час цяпер не той. Сапраўды, свята не прыйшло да людзей у кожны раён ці квартал, а людзі прыходзілі да яго ў цэнтр горада. І ўсё ж яно падаравала ім усмешкі, добры настрой, радасць сустрэчы з мастацтвам. І гордасць, што мы жывём у такім цудоўным горадзе.**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты свята.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ЮХО Якім Дамінікавіч** і **ЮХО Мацвей Дамінікавіч**, што нарадзіліся ў вёсцы Вынья Бабаўнянскага сельсавета Капыльскага р-на Мінскай вобласці, эмігрыравалі ў пачатку нашага стагоддзя ў Злучаныя Штаты Амерыкі. З імі вялася перапіска. У 1946 годзе **Якім Дамінікавіч** прыслаў апошняе пісьмо, у якім пісаў, што яго сын таксама ваяваў — плаваў у Ціхім акіяне; дачка быццам бы працавала ўрачом, а ягоны брат **Мацвей**, з якім ён паехаў у ЗША, загінуў. Дзяцей у Мацвея не было.

Калі хто сустракаўся з гэтымі людзьмі, ведае пра іх лёс альбо дзе яны пахаваны,— адгукніцеся. Пісаць на адрас: **Беларусь, 220047, г. Мінск, вул. Ахоцкая, д. 168.**

**ЮХО Леаніду Іосіфавічу.**

**САЛАВЯНЧЫК Валянціна Аляксандраўна**, якая жыве ў горадзе Мінску, шукае цётку **САЛАВЯНЧЫК Сабіну Вікенцьеўну**, ураджэнку вёскі Балговічы былой Грозаўскай воласці, а таксама яе, **Сабіны Вікенцьеўны**, мужа **ПЯТРОЎСКАГА Сільвестра**, які нарадзіўся ў вёсцы Застыржын Слуцкага раёна, і іхніх сыноў **Станіслава, Уладзіслава, Іосіфа.**

Усіх, хто што-небудзь ведае пра сям'ю **САЛАВЯНЧЫКАЎ**, якая жыве ў замежжы, просім пісаць на адрас: **Беларусь, 220037, г. Мінск, вул. Сталетава, д. 9, кв. 185.**

**САЛАВЯНЧЫК Валянціне Аляксандраўне.**

**НА ЗДЫМКУ: Сабіна САЛАВЯНЧЫК і Сільвестр ПЯТРОЎСКІ.**



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»

Індэкс 63854. Зак. 1074.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12